

## Мікалай АКСЁНАЎ:

# «Мы разумеем важнасць сацыяльнай сферы, а таму надаём ёй прыярытэт»



**Нядаўняе пасяджэнне прафкома БМЗ нагадвала сабой растрывожаны вулей. Пытанне, якое абмяркоўвалася, далёка не ардынарнае: там ішло размеркаванне кватэр у 72-кватэрным жылым доме, пабудаваным за грамадскія сродкі. А каму не хочацца атрымаць кватэру «на халяву»? У наш час, калі згортваецца не толькі кааператыўнае, а нават і індывідуальнае будаўніцтва, падобная раскоша выклікае здзіўленне. Не ўклаўшы ніводнага ўласнага рубля, стаць уладальнікам кватэры... Нонсенс?**

**Для многіх, нават буйных прадпрыемстваў, магчыма, і так, але толькі не для жлобінскіх металургаў. Як і ў былыя часы, і сёння БМЗ не збіраецца згортваць жыллёвую праграму, як і ў цэлым пытанні сацкультбыту. Нарошчваючы вытворчыя магутнасці, тут пастаянна дбаюць пра сацыяльную сферу, ставяць яе ў цэнтр увагі. Прадпрыемства маладое (нядаўна споўнілася 12 гадоў з дня пуску), а таму вострыя праблемы з жыллём, садзікамі, школамі. Але справа яшчэ і ў тым, што кіраўніцтва прадпрыемства і асабіста генеральны дырэктар Юрый Феакцістаў праяўляюць належны клопат менавіта пра сацыяльную сферу, справядліва лічачы, што жыццё і быт металургаў непарыўна звязаны з вытворчымі справамі.**

**Пра тое, як у вельмі складаных умовах жлобінскім металургам усё ж удаецца вырашыць гэтую вельмі няпростую задачу, мы папрасілі расказаць дырэктара па кадрах, рэжыму і сацыяльнаму развіццю БМЗ Мікалая АКСЁНАВА.**

— Сапраўды, нас нярэдка папракаюць у празмернай увазе да праблем сацыяльнай сферы, — гаворыць Мікалай Іванавіч. — На першы погляд, быццам і справядліва, бо ва ўмовах жорсткага эканамічнага крызісу даводзіцца лічыць кожную капейку, эканоміць літаральна на ўсім. Але толькі не на сацыяльнай сферы. Возьмем тую ж жыллёвую праблему. Ну як чалавеку з яго зарплатай у межах паўтара мільёна рублёў пабудаваць кватэру, якая цягне недзе на 300 мільёнаў рублёў? Ды гэта ж кабала на ўсё жыццё! А таму, нягледзячы на розныя цяжкасці, імкнёмся не збаўляць тэмпаў жыллёвага будаўніцтва. Вось і сёлета ўвялі ў эксплуатацыю 71-кватэрны, я неўзабаве завершым засяленне і 72-кватэрнага жылога дома, а ў снежні будзе ўведзены ў эксплуатацыю і 80-кватэрны жылы дом. Такім чынам, як і прадугледжвалася ў калектыўным дагаворы, увядзём у эксплуатацыю 223 кватэры. У цэлым сёлета на жыллёвыя мэты будзе выдаткавана прыкладна 34 мільярды рублёў — столькі ж, колькі і на вытворчую праграму. Яшчэ каля 12 мільярдаў рублёў пайшло на развіццё сацыяльнай сферы: культура, спорт, дзіцячыя садзікі і школы.

**— У свой час у Жлобіне на базе БМЗ быў пабудаваны першы ў рэспубліцы фізкультурна-аздараўленчы камбінат. Па вашаму прыкладу аналагічныя фізкультурна-аздараўленчыя комплексы пачалі будавацца і ў іншых гарадах рэспублікі. Праўда, потым, у сувязі з абвастрэннем эканамічнай сітуацыі, многія падобныя збудаванні закрыліся ці іх проста перапрафілявалі. А які лёс вашага ФАКа?**

— Сёння наш ФАК стаў сапраўдным цэнтрам здароўя. Паспяхова развіваецца так званая клубная сістэма: клуб баскетбалістаў аб'ядноўвае 27 чалавек, валейбалістаў — звыш 40, а ў клубе аматараў бегу колькасць актыўных наведвальнікаў больш за 100. А яшчэ шахматна-шашачны, лёгкай атлетыкі... Практычна дзверы камбіната адкрыты з сямі раніцы і да глыбокай ночы — без выхадных і святочных дзён. Адзіны ў годзе выхадны — 1 студзеня. Для тысяч людзей ФАК стаў любімым месцам адпачынку, загартоўкі. Уваходны білет каштуе 1400 рублёў — менш, чым праязны талон у грамадскім транспарце. Але затое колькі бадзёрасці, сілы набываюць тут яго наведвальнікі! Нядаўна завершаны розыгрыш кубка БМЗ па валейболу, у якім удзельнічалі 18 каманд. На чарзе — першынство па баскетболу, настольнаму тэнісу, іншых відах спорту. Дарэчы, нашы баскетбалісты — пастаянныя ўдзельнікі абласных і рэспубліканскіх спаборніцтваў. Ёсць чым пахваліцца і ўдзельнікам клуба аматараў бегу «Світанак». Вядучыя лёгкаатлеты пастаянна стартуюць у рэспубліканскіх і нават міжнародных спаборніцтвах, дзе нязменна заваёўваюць прызавыя месцы. Ці не таму менавіта нашаму ФАКу было прысуджана першае месца сярод аналагічных фізкультурна-спартыўных калектываў Гомельшчыны. Мясцовыя прафесіяналы па веласпорту — нязменныя пераможцы рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтваў. У спартыўным свеце добра вядомы імёны нашых славутых веласіпедыстаў — Алены Маліноўскай, Ігара Грымкова і многіх іншых. Гордасцю завода з'яўляецца дзіцяча-юнацкая спартыўная школа па веласпорту. Толькі ў рэспубліканскую школу алімпійскага рэзерву сёлета накіравана чацвёра нашых юных выхаванцаў.

**— Неяк давялося харчавацца ў вашай заводскай сталоўцы. Здзівіла разнастайнасць страў, ды і абеды недарагія. А на прадпрыемстве многія тысячы людзей. Няпроста, мабыць, пракарміць такую колькасць едакоў?**

— Усяго сістэмай грамадскага харчавання ахоплена больш як 11 тысяч чалавек. У сістэме камбіната грамадскага харчавання, які не першы год узначальвае Валянціна Анатольеўна Лісоўская, толькі на заводзе 6 сталовых. Працуюць таксама 4 кафэ і кафэ-рэстаран, 6 харчовых магазінаў, 5 кандытарскіх цэхаў і 10 буфетаў. У сярэднім месячны грашовы абарот камбіната грамадскага харчавання перавышае 5 мільярдаў рублёў. І хоць харчавікі на гаспадарчым разліку, без датацый з заводскай казны не абыходзяцца, штомесячна даплачваем ім недзе каля паўмільярда рублёў. Адсюль і адносна танныя абеды, і разнастайнасць страў... Тут жа ў заводскіх сталоўках можна набыць даволі танныя паўфабрыкаты, што таксама неблагая прыбаўка да зарплаты. Асаблівы клопат — дашкольнікі. У сістэму камбіната грамадскага харчавання ўваходзіць абслугоўванне 9 заводскіх дзіцячых садзікаў з іх больш чым трыма тысячамі выхаванцаў. Для дзетак — асобы рэжым харчавання: высокакаларыйная ежа, круглы год у меню агародніна, садавіна і цытрусавыя, сокі... Наперадзе — Новы год. Ужо зараз дарослыя заклапочаны тым, каб кожнае дзіця атрымала свой падарунак ад Дзеда Мароза.

**— У наш час, калі ў многіх месцах згортваецца грамадска-масавая работа, на БМЗ дзейнічаюць жансавет, юнацкія і дзіцячыя фарміраванні. І ўсё гэта пры актыўнай падтрымцы адміністрацыі, прафсаюзнага камітэта...**

— Не так даўно давялося вечарам пабываць у нашым жаночым клубе «Ажур». Найбольшае ўражанне пакінула сама абстаноўка, што пануе там: ніякага фармалізму, заарганізаванасці, поўная адкрытасць, давер. Жанчыны прыходзяць сюды як на свята: падзяліцца ўражаннямі ад убачанага і пачутага на вытворчасці, а то і проста адпачыць, хоць крыху развеяцца ад штодзённых бытавых клопатаў. А з якім захапленнем дэманструюць яны свае абновы, зробленыя з дапамогай спецыяльных кансультантаў клуба! Ну а якая ж гаспадыня не дзеліцца сваімі кулінарнымі сакрэтамі? Асабліва, калі ўсе навокал у захапленні ад вельмі ўжо смачнай стравы. Тут жа запісваюцца рэцэпты, даюцца кансультацыі. Гледзячы на іх, пераконваешся, як важна жанчыне мець хоць нейкую аддушыну ў гэтым далёка не квітнеючым жыцці. А затраты на арганізацыю клуба не такія ўжо і вялікія: выдзелілі памяшканне, дапамаглі крыху сродкамі. Усё астатняе — іх творчы пошук і энтузіязм.

Сапраўдным цэнтрам творчасці і эстэтычнага выхавання стаў і дзіцячы клуб «Факел», заняткі якога наведваюць каля 720 школьнікаў. Працуюць гурткі прыкладной творчасці, мастацкай самадзейнасці, музычная студыя «Крынічка», розныя спартыўныя секцыі. І справа тут не толькі ў агульнаадукацыйным і эстэтычным выхаванні, але і ў духоўным, маральным самасцвярджэнні соцень хлопчыкаў і дзяўчынак, для якіх клуб стаў сапраўды родным домам. У гэтым немалая заслуга дырэктара гэтай установы Наталлі Мікалаеўны Фларызяк, якая ўдала спалучае ў сабе талент арганізатара і кіраўніка з талентам выдатнага педагога і выхавальніка, што ў наш час не часта сустракаецца. Многія сёння спасылаюцца на недахват сродкаў, слабасць матэрыяльна-тэхнічнай базы. Вядома, гэта важкая прычына. Але ёсць яшчэ дух гарэння, вечнага пошуку, усё тое, што ўвасабляе ў сабе энтузіязм мас. І калі разбудзіць яго, многае можна вырашаць, у тым ліку і ва ўмовах вострага эканамічнага крызісу. Апошнім часам у нашы дзіцячыя садзікі і школы зачасцілі шматлікія дэлегацыі з блізкага і далёкага замежжа. І многія ў захапленні ад таго, у якіх умовах жывуць, адпачываюць і вучацца дзеці металургаў. Словам, мы разумеем важнасць сацыяльнай сферы, а таму надаём ёй прыярытэт. Дарэчы, важнасць гэтай справы яшчэ раз падкрэсліў Прэзідэнт у сваёй прамове на Усебеларускім народным сходзе.







**На здымках:**

дырэктар па кадрах, рэжыму і сацыяльнаму развіццю БМЗ **Мікалай АКСЁНАЎ;**

растуць новыя мікрараёны ў старажытным Жлобіне, дзе жывуць сем'і металургаў.

дырэктар прадпрыемства грамадскага харчавання БМЗ **Валянціна ЛІСОЎСКАЯ;**

выдатныя стравы гатуюць повар сталовай **Галіна БАЛЯНКОВА** і кандытар **Надзея БАЙКАЧОВА;**

метадыст жаночага клуба «Ажур» **Алена ЖАРНІКАВА** ахвотна дае рэкамендацыі чарговай наведвальніцы **Эле ІВАНОВАЙ;**

на трэніроўцы — юныя веласіпедысты;





# У ПАЛАЦ — «НА АГЕНЬЧЫК»




**Ён бачны здаля — высокі, аб'ёмны, у акружэнні стройных калон. І хоць мінула ўжо больш як чатыры гады з дня ўводу ў эксплуатацыю Палаца культуры металургаў, яшчэ і па сённяшні дзень не сціхаюць спрэчкі вакол праекта: маўляў, вельмі ўжо старамодны, разлічаны на знешні эфект.**

**А што кепскага ў тым, што будынак прыгожы? Мы ж і сёння любуемся старажытнымі храмамі, сярэдневяковымі замкамі, знаходзім у іх гармонію, увасабленне непаўторнага ўнутранага свету таленавітых дойлідаў. І гэтаму палацу стаяць вечна, тым больш, што і праектаваўся, і будаваўся з душой, а галоўнае — на патрэбу металургамды і ўсім жыхарам Жлобіна, для якіх палац стаў месцам жаданага і любімага адпачынку. І калі нехта прыходзіць займацца ў вакальную групу ці хор, музычны ансамбль, тут не пытаюць, металург ты ці будаўнік. Усе — жаданыя госці, была б хоць нейкая кропля таленту ды цярпення. Астатняе — справа часу і педагагічнага майстэрства персаналу палаца.**







А тое, што тут працуюць нястомныя, улюбёныя ў сваю справу выкладчыкі і выхавальнікі, яшчэ раз пацвердзіла гутарка з дырэктарам палаца і нашым добраахвотным гідам Аляксандрам Чабыкіным.

— Вы прыехалі б пару тыдняў назад, — гаворыць Аляксандр Юр'евіч. — Якраз у госці да металургаў, а дакладней — да іх дзяцей, прыехала група іспанцаў. І не маленькая — цэлых 105 чалавек! У іх гонар і наладзілі незабыўную сустрэчу...

Аказваецца, сёлетнім летам дырэкцыя і прафком БМЗ выдзелілі значныя сродкі для аздараўлення 3 тысяч дзяцей у далёкай Іспаніі. Многія з іх адпачывалі ў спецыяльных дзіцячых пансіянатах, але значную колькасць беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак узялі да сябе спагадлівыя іспанцы. Цяжка сказаць, чым прывабілі да сябе юныя істоты іспанцаў, але тыя аднесліся да іх як да родных. Больш таго, як толькі з'явілася хоць нейкая магчымасць наведаць сваіх нядаўніх выхаванцаў, 105 чалавек адразу прыляцелі ў Мінск. Іх прывезлі ў Жлобін ажно на трох аўтобусах. Прызнацца шчыра, на такую колькасць гасцей ніхто не разлічваў. Вось у адзін з дзён і вырашылі арганізаваць экскурсію ў Брэсцкую крэпасць і Мінск. Узрушаныя іспанцы потым горача даказвалі: «Мы не на экскурсіі сюды ехалі, мы хацелі паглядзець на нашых дзяцей, сустрэцца з іх бацькамі...» Тыдзень праляцеў незаўважна: сустрэчы з дзецьмі, сямейныя застоллі яшчэ больш зблізілі, неяк зраднілі беларусаў і іспанцаў. А потым быў вечар у Палацы культуры металургаў, які ўвабраў у сябе столькі радасці, вяселля, што надоўга запомніцца і гасцям, і самадзейным артыстам, якія выкладваліся да канца.

У работнікаў Палаца культуры неблагія набыткі, свае традыцыі клубнай работы. Сапраўднай з'явай стала традыцыйнае свята «Грай, гармонік», якое збірае дзесяткі аматараў ігры на і дагэтуль любімым музычным інструменце не толькі гараджан, але і жыхароў навакольных вёсак.

Сотні людзей збіраюцца на традыцыйныя вечары рамансаў «Каханне і разлука». Спяваюць самадзейныя артысты на сцэне, спявае ўся зала... Тут працуюць танцавальны і харэаграфічны гурткі, харавы калектыў, аркестры духавой і эстраднай музыкі, вакальная група. Драматычны тэатр падрыхтаваў і здаў два спектаклі, якія высока ацанілі гледачы. А дзіцячы харэаграфічны ансамбль пабываў з канцэртамі ў Польшчы, Мінску, Бабруйску. Калектыў Палаца культуры металургаў даўно і моцна сябруе з калегамі з бабруйскай «Белшыны»: праводзяць сумесныя рэпетыцыі, абменьваюцца канцэртамі.

Асаблівы клопат — дзеці. Сотні іх займаюцца ў гуртках мастацкай самадзейнасці, наведваюць шахматна-шашачны клуб, які працуе пры палацы, клуб мяккай цацкі з мілагучнай назвай «Барбі», фальклорны калектыў, дзіцячую духавую студыю...

Мы гутарым з дырэктарам Палаца культуры, а перад вачыма незабыўны вечар, прысвечаны Дню металурга. Усе подступы да палаца былі запоўнены гледачамі, якіх, па ацэнцы арганізатараў свята, сабралася тады ад 30 да 40 тысяч чалавек. На канцэрт, які цягнуўся каля 7 гадзін, запрасілі вядомых «зорак» Ірыну Салтыкову, Наталлю Савіну, Ігара Нікалаева, Ніку... Апладысментамі сустракалі ўдзячныя гледачы і выступленні сваіх самадзейных артыстаў.

Адкуль у металургаў такое імкненне, такая цяга да прыгажосці, культуры? Можа, прычына ў тым, што яны з'ехаліся сюды, на бераг сівога Дняпра, ледзь не з усіх канцоў некалі вялікай краіны? Тут, у адным горадзе, у адным вялікім калектыве знайшлі сваю новую радзіму дзеці розных народаў, якой яны верай і праўдай служаць. А яшчэ ім, мабыць, пашчасціла і на кіраўніцтва, якое пастаянна дбае пра сацыяльную сферу, культуру і быт металургаў. А ў мяне на памяці трагізм другога горада на Гомельшчыне — Светлагорска. І там малады, прыгожы горад, прыгожыя людзі. Але вось на нейкім этапе дарослыя выпусцілі з-пад сваёй увагі гарадскую моладзь. І бяда пагрукалася ў дзверы: страшэнная, жорсткая — спярша наркаманія, а цяпер яшчэ і СНІД.

Вядома, праблема гэта глыбокая і складаная. Але не апошнюю ролю ва ўсім гэтым адыгрывае і выхаваўчая работа. Там, дзе юныя душы — у цэнтры ўвагі, навідавоку, занятыя радаснай, любімай справай, там не цягне іх у падваротні і падвалы. У іх свой інтарэс, свая будучыня.

**На здымках:** Палац культуры металургаў — любімае месца адпачынку жлобінскіх жыхароў; ідзе рэпетыцыя дзіцячага харэаграфічнага калектыву; перад чарговым канцэртам удзельнікі музычнага ансамбля адточваюць сваё прафесіянальнае майстэрства; а ў юнай музыканткі **Ані ВЕСЯЛОВАЙ** — усё яшчэ наперадзе: слава, апладысменты ўдзячных гледачоў. Заняткі вядзе педагог **Андрэй АЛЯКСЕЕЎ.**

**Матэрыялы старонкі падрыхтавалі спецыяльныя карэспандэнты «ЗВЯЗДЫ» Уладзімір ГОЙТАН і Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).**

